PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1809) ГОД XXXVI 20 СТУДЗЕНЯ 1991 г ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



Фота У. Завадскага

# ЧЫМ ЖЫВЕ СТУДЭНЦТВА — III З'ЕЗД БАС

**(ГУТАРКА З АНАТОЛІЕМ ПЯТРОВІЧАМ ГРЫЦКЕВІЧАМ — ЗАГАДЧЫКАМ КАФЕДРЫ ГІСТОРЫІ МІНСКАГА ІНСТЫТУТА КУЛЬТУРЫ)**

*— Вядома, што сучасная беларуская гісторыя праходзіла крызіс. Якія гэтага прычыны?*

— Беларуская гістарычная навука цяпер знаходзіцца ў стане крызісу, бо ў глыбокім крызісе і натуральным заняпадзе знаходзяцца ўсе грамадскія навукі на Беларусі і ў СССР. Галоўная прычына гэтага — развал каманднa-адміністрацыйнай сістэмы з яе таталітарнай ідэалогіяй. Афіцыйная гістарычная навука на Беларусі доўгі час выконвала ролю служанкі кіраўнічых партыйных колаў, якія намагаліся пры дапамозе гісторыі апраўдваць сваю палітыку нацыянальнага нігілізму, стварыць шэраг стэрэатыпаў у шырокіх колаў насельніцтва, падмацаваць такім чынам сваё пануючае становішча ў грамадстве паводле сталінскага прынцыпу: „Гісторыя — гэта палітыка, абернутая ў мінулае“. Таму на працягу дзесяцігоддзя стваралася афіцыйная версія гісторыі Беларусі, заснаваная на міфах, легендах, звычайнай хлусні, замоўчванні няёмкіх для кіруючай на Беларусі і ў СССР сістэмы фактаў і гістарычных з'яў, іх фальсіфікацыі.

У свой час план напісання гісторыі Беларусі паводле сацыяльнага заказу з боку кіраўнікоў партыйнай ідэалагічнай службы ў рэспубліцы быў апублікаваны ў 8-м нумары часопіса „Бальшавік Беларусі“ за 1948 год (с. 36-72). Гэта былі „Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР (частка 1)“. Прадвызначаная ў гэтым плане схема палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай гісторыі Беларусі, якая склалася за апошнія дзесяцігоддзі ў беларускай гістарычнай навуцы, мала змянілася з таго часу.

Калі ўзяць асноўныя пазіцыі беларускіх савецкіх гісторыкаў, то іх можна звесці да наступнага: адмаўленне ад здабыткаў беларускай гістарычнай навукі 20-х — пачатку 30-х гадоў, а таксама ад навуковых даследаванняў беларускіх гісторыкаў, якія жывуць па-за межамі Бацькаўшчыны. Слабое веданне не толькі замежнай гістарыяграфіі (і перш за ўсё польскай), але і таго новага, што ёсць у расейскай савецкай гістарыяграфіі ці ва ўкраінскай, літоўскай і латвійскай гістарыяграфіі, ненавуковы падыход да гістарычных крыніц і метадалогіі гісторыі і, наогул, цэнтралісцкі, імперскі, расейска-велікадзяржаўны погляд на гістарычны працэс з пункту гледжання Масквы (г.зн. што карысна было для расійскіх цароў і іх наступнікаў, тое карысна і для беларускага народа). Уся гэта канцэпцыя была дасканала распрацаваная членам-карэспандэнтам Акадэміі педагагічных навук СССР, прафесарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта Лаўрэнціем Абэцэдарскім і вядомая як „абэцэдаршчына“, а яе шматлікія паслядоўнікі атрымалі мянушку „абэцэдарчыкаў“.

*— Дарэчы, ці ўсё можна тлумачыць „абэцэдаршчынай“? Гіс-*

(Працяг на стар. 6)




**СТАЕР**

— Ура! — ішоў зары насустрач.
— Жыве! — крычаў ў віры падзей.
— Sto lat! — жадаў кумірам шустрым.
— Паможам! — кляўся у бядзе.

І так пакручастай дарогай
Прыпёр ў чарговы заварот.
А там паклёп, ганенне, рогат...
І ён вады набраў у рот.

ЮРКА ЗУБРЫЦКІ




**Szanowna Redakcjo!**

Każdy z nas ma prawo do uszanowania tajemniczej strony bytu ludzkiego — w sobie samym i w innych. Szczerość wiodąca o **krok za daleko czy zbyt głęboko** posunięta analiza **psychiki własnej** bądź bliźniego nie da się pogodzić z postawą szacunku.

Pięknie i słusznie pisał Albert Schweitzer, że „Człowiek nie powinien chcieć wnikać w istotę drugiego człowieka. Analizowanie innych (...) nie jest zajęciem szlachetnym. Istnieje wstydliwość nie tylko w sprawach ciała, ale i w sprawach ducha. Również dusza ma swe osłony, których nie wolno jej odbierać i które należy uszanować. Nikt nie może powiedzieć **drugiemu: ponieważ łączy nas to** a to, mam prawo znać wszystkie twoje myśli. (...) Wszelkie żądania tego rodzaju są głupie i zgubne. Wartość ma tylko takie „daję”, które wzbudza „daję” drugiego”.

Uznając powyższe słowa Alberta Schweitzera za własne, kształtujące mój sposób myślenia i formy życia duchowego, zdecydowałam się jednak napisać ten list pozostając pod wpływem trzech innych listów, których jestem adresatką.

Pierwszy, który otrzymałam już dawno, przysłał mi mój przyjaciel, muzułmanin, kiedy poważnie zachorowałam. Korespondencja zawierała odręcznie zapisaną kartkę z modlitwą w języku arabskim. Była to kartka z — posiadającego dziś również wartość historyczną — chamaiłu, brewiarza muzułmańskiego, który był wcześniej własnością Tatara, Jana Jakuba Szegidewicza, wspólnie cierpiącego z o. Maksymilianem Kolbe w jednej

(Pracяг на стар. 4)

# НАЙЭЛІТАРНЫ З ЭЛІТАРНЫХ

16 снежня ў нядзелю ў памяшканні беластоцкага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў адбылася сустрэча з паэтам Янам Чыквінам. Нягледзячы на тое, што аб'ява пра гэтую літаратурную сустрэчу была надрукавана ў „Ніве" і, пэўна ж, перададзена па радыё, на спатканне з'явілася ўсяго некалькі чалавек, што ў вялікай меры адлюстроўвае ступень зацікаўлення паэзіяй у наш надзвычай непаэтычны час. Сустрэча была, што варта выразна адзначыць, *par excellence* літаратурнай. У часе дыскусіяў ніхто і адным словам не заікнуўся пра тую халерную нашую палітыку, калі не лічыць забаўны каламбур майго брата, які прабалбатаўся, што нібыта электрык не ў змозе пісаць крытычныя эсэ. Узровень сустрэчы вокамгненна выратаваў заўсёды кемлівы спадар Яновіч, удакладніўшы, што па адукацыі ён электратэхнік. Усё. аднак, у сваю чаргу. Герой сустрэчы запрапанаваў свабодную форму ейнага ходу, а каб нейк яе ўзначаліць, папрасіў доктар Тэрэсу Занеўскую адчытаць тэкст, падрыхтаваны ёю да публікацыі ў люблінскім месячніку „*Akcent*". Я асабіста прызвычаены да аналізу даўжэзных і нудных багаслоўскіх трактатаў у Ватыкане, адчуў сябе ў гэты момант зарэзаным. На шчасце, у сваіх спадзяваннях памыліўся я неверагодна. Тэкстам, які зачытала спадарыня Занеўская, было інтэрв'ю з Чыквінам-паэтам — „*Nie wstąpię drugi raz do tej rzeki*". Паколькі сустрэча такога характару была адною з першых у нашым беластоцкім асяроддзі, дык непазбежна ператварылася яна ў дыскусію пра цэлае Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Ідэя свабоднай формы прадзёўбвалася.

Ёсць у літаратуры правіла, што маладое пакаленне ў сваіх памкненнях адмаўляецца ад тае спадчыны, якая сталася плёнам працы папярэднікаў. „Белавежа", на самай справе, і ёсць тым пакаленнем пісьменнікаў і паэтаў, якое стварыла ў Беластоцкім краі падставы літаратурнага жыцця. Мне, як прадстаўніку першых нашчадкаў „белавежцаў", не заставалася нічога іншага, як толькі наставіць вушы і як мага лепш уцяміць тое, ад чаго менавіта давядзецца адмовіцца аднагодкам. Вярнуцца да творчасці „Белавежы" як да крыніцы, каб узяць з яе поўнай жменяй, наканавана не раней як трэцяй генерацыі.

У сваёй гісторыі „Белавежа" не выпрацавала праграмы. Матыў гэты паўтараўся ў дыскусіі. Надзя Артымовіч уголас выказала сумненне ў патрэбнасці якой-кольвечы праграмы, а, у думках, ёй падтакнуў — на якое ж ліха здалася б тая праграма, якая толькі абмяжоўвала б? Аказваецца, што так спрошчваць справу немагчыма. Кожны з прысутных на сустрэчы заснавальнікаў „Белавежы" дадаў ад сябе слова ў асэнсаванне з'явы, а дакладней кажучы, яе адсутнасці. Вобраз, які выкрышталізаваўся ў маёй ігнаранцкай свядомасці, такі: у сапраўднасці нельга сказаць, што „Белавежа" дзейнічала без праграмы — маладых тады літаратараў яднала еднасць імкненняў, гэта значыць жаданне пісаць па-беларуску ды авалодаць літаратурным варштатам. „Белавежцы" пачыналі сваю працу на голым полі, ад абсалютнага нуля. У выніку ж, не было ніякай патрэбнасці, каб гэткую супольнасць інтарэсаў абвяшчаць у форме адмысловай граматы. З іншага боку, у сярэдзіне пяцідзесятых такое дзеянне, несумненна, закончылася б допытам у памяшканнях бяспекі: хто такі Янка Купала і які ягоны адрас? Урэшце, аб'яднанне „Белавежа" не з'яўляецца літаратурнай групай у сэнсе групаў, якія ўзнікалі ў краінах, літаратуры якіх дасягнулі пэўнай сталасці, бо там ідэя згуртавання была неразлучна звязана з лідэрствам.

Літаратура патрабуе чытача, і наадварот, які чытач, такая літаратура. Простая ўзаемная абумоўленасць, якая вызначае ўвесь рух літаратуры на небасхіле мастацтва. У маштабе Польшчы шэсцьдзесят працэнтаў людзей не мае ў хаце ніводнай кнігі, а наступных трыццаць з друкаваным словам знаёміцца праз газеты. У кантэксце такой статыстыкі, вядомасць беларускіх аўтараў на Беласточчыне здаецца апраўданай. Паэзія Яна Чыквіна, так як і ўся паэзія эстэтычнага кірунку, якая бярэ сваю інспірацыю і здзяйсняецца не ў канкрэтным гістарычным ці палітычным працэсе, але ва ўстойлівай сферы агульначалавечых каштоўнасцяў, прысуджана на вузкае элітарнае кола чытачоў. Ні паэту, ні ягонай творчасці ніколі не здабыць вядомасці роўнай, прыкладова, той, якую займеў у нас Віктар Швед.

Недзе ў чацвёртай гадзіне сустрэчы здорава бабахнула па мазгах прытымбытных. Доктар Тэрэса Занеўская зачытала свой другі тэкст — крытычнае эсэ „*W drodze... Przestrzeń w poezji Jana Czykwina*". На працягу свайго ігнаранцтва я ніколі не падумаў, што рэцэпт на эсэ да такога просты. Трэба ўзяць пару вершаў, сама лепш з розных перыядаў творчасці данага аўтара, якую-небудзь анталагічную катэгорыю, затым глянуць праз ейную прызму, а ніякае *sacrum profanum* не ўхіліцца ад аналізу. Літаратурная крытыка, аказваецца, не менш неабходная літаратуры, чым патрабавальны чытач. Яна дае той погляд на творчасць данага аўтара, ці групы аўтараў, які недаступны звычайнаму чытачу, ды і самому паэту, як паказала сустрэча, бывае нечаканасцю. Літаратурная крытыка, аднак, пры ўсёй сваёй жанравай апрычонасці, немагчымая без прафесіяналістаў. Адно, калі крытыкай займаецца пісьменнік, а зусім іншае, калі за распрацоўку творчасці бярэцца філолаг з цэлым магутным апаратам, з Фройдам уключна. Творчасць Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" ўсё яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Гэткім акцэнтам і закончылася ўся сустрэча. Адазвацца ў ёй мне не давялося, але затое нарэзаўся я ўдоволь дармовай кавы, бо грэхам было б не ўспомніць пра дасканалы пачастунак, які падрыхтавалі арганізатары. На літаратурныя сустрэчы варта прыходзіць, кажу вам.

**Аляксандр Максімюк**

## ФІЛІПЧУК УПРЫГОЖВАЕ БЕЛАВЕЖУ

**Гаспадара ацэньваюць перш за ўсё па выглядзе яго двара — сцвярджае новы (ад вясны м.г.) дырэктар Белавежскага нацыянальнага парка, праф. Аляксандр У. Сакалоўскі. Таму і першым яго загадам на новай пасадзе было давесці ўсе паркавыя аб'екты да эстэтычнага выгляду. Праз іх жа праходзяць штогод дзесяткі тысяч турыстаў. За рамонт двух галоўных „візітных картачак" БНП узяўся мясцовы столяр, а пакрысе і цясляр Аляксей Філіпчук. Гутарка тут пра ўваходныя брамы ў запаведнік прыроды і ў палацовы парк, якія паставіў яшчэ ў 30-тыя гады цясляр з Заставы Павел Семянюк.**

**Аляксей Філіпчук справіўся з працай надта добра. Відаць, што прафесія дадзена яму самой натурай.**

**— Занятку пры брамах было шмат, — гаворыць майстар, — асабліва пры палацовай. Часткі слупоў, якія знаходзіліся ў зямлі, амаль цалкам згнілі, ім жа больш за паўстагоддзя. Адзіны капітальны рамонт выканаў у 50-ыя гады Ян Андрасюк. Апрача брамаў, раней рамантаваў я яшчэ ў парку масцікі над ракой і сажалкамі, зрабіў інфармацыйныя дошкі, а таксама выканаў некалькі іншых сталярных дэталяў.**

**Сталярную майстэрню А. Філіпчук вядзе ўжо пяты год. Галоўным чынам выконвае будаўнічую сталярку. Праца яго рук гэта таксама пляц гульняў у мясцовым дзіцячым садзе. На недахоп заказаў зараз не наракае, хаця бывалі і перастоі. Занятак даюць галоўным чынам установы, прыватных заказчыкаў мала — людзі проста не маюць грошай. Сталяраў у Белавежскай гміне ёсць, бадай, 11, канкурэнцыя вялікая, некаторыя з іх знаходзяць заказы аж у Варшаве.**

**Будучы ў Белавежы, абавязкова паглядзіце брамы, аднаўленыя А. Філіпчуком, нашым земляком з залатымі рукамі.**

**Тэкст і фота ПЯТРА БАЙКО**



*Рамантаваць браму памагаў бацьку падчас канікулаў сын Пётр (злева).*

## У АДНОЙ ВЁСЦЫ

**— Мы з ёю, і з імі ўсімі не хочам мець нічога супольнага ў нашай вёсцы, — кажа К. Б. — Вядома, шкада іх. Прывёз яе трыццаць гадоў таму назад, такую спакойную, ціхую. Добра мы ёй прыглядаліся — невядома каго мог прывезці з Усходніх Прусаў — там многа было ўсялякіх, як у катле, такая зберанiна з усяе Польшчы, і з-за Буга... Паехаў Павал крыху падзарабіць, вярнуўся голы ды вясёлы, з дзяўчынай... Тады не было так, як цяпер — тады дзяўчат столькі было па вёсках, толькі выбірай, як каму пісана. Мог Павал выбраць нашу дзеўчыну, хоць бы мяне ці Надзю Піліпаву. Надзя за ім пайшла б у агонь; ужо збіраліся падаваць на запаведзі, але Павал паехаў на Прусы. Надзя спакавала ўжо была свой пасаг і хацела за ім перціся, але нашы хлопцы на свята прыехалі і сказалі ёй, што Павал знайшоў там якуюсь мазурку, нямкіню, ці што, бо яна там нарадзілася. Да таго ж — каталічка. Калі яе банькі даведаліся, што „кацап" да яе ходзіць, з хаты прагналі, а тады яна, гэта Зося, з ім у „маёнтку" пасялілася, і так жылі на вачах усіх, як муж з жонкаю. Праз паўгода да нас прыехалі. Бацюшка не вельмі хацеў даваць шлюб — ужо ж сорам перад Богам пад вянец ісці з такім жыватом, але лепш, калі сям'і Бог блаславіць. Зараз дзіця нарадзілася, ахрысцілі яго ў царкве, ды і Зося сама ў царкву штонядзелю прыходзіла, хаця не перахрышчвалася...**

**— Значыць — адчувала сябе „нашай"?**

**— Бо касцёла тут не было. Але ў хаце ў куточку трымала свой каталіцкі алтарык, з гіпсавай Божай Маці. Яе вера — яе справа. Мы — народ спагадлівы, спакойны, шануем чужых і сваіх. І яна тады была такая спакойная, якаясь перапалоханая. Там, у яе вёсцы, яе выклялі, тут хацела ўсім дагадзіць. А ўсім не дагодзіш, а найгорш — найбліжэйшым, праз плот, суседзям. І Надзя тут жа жыла, пяць метраў, праз вулачку. У адной вёсцы — як у адной сям'і; скажаш слова ў адным пакоі — чуваць у цэлай хаце. Ведаюць нават, што ты думаеш! А Зося была чужая, і ўсё ёй заглядалі і ў гаршчок, і ў сені, і ў сэрца гатовы былі залезці, што там добрага ці кепскага. Усё нам здавалася, што яна глядзіць на нас згары. Калі нарадзіла трое дзяцей, перастала ўжо так выстройвацца, а то і ў свята, і ў поле апраналася як нейкая пані. Пэўна, хацела паказацца сярод гэтых мужыкоў у фуфайках... Пасля пачалі гаварыць, што Павал ёй не дагаджае, бо надта ж часта пачала Зося ездзіць да бацькоў, ды хто там ведае, куды яна ўсё перлася?..**

**— Я чула, што Павал яе біў?**

**— От, што такое — біў ён ці не біў... Усяляк бывае ў сям'і. Не слухалася, то і сцебануў пару разоў. Баба павінна ведаць, хто пан у хаце!**

**— Ой, пане Сасніцкі! Здаецца, ужо не тыя часы; неабходна ў сям'і нейкае партнёрства?..**

**— Усё ж ён быў някепскі, прынамсі да пары. Піў не больш, чым ін-**

**(Працяг на стар. 8)**




(Працяг са стар. 1)

celi na Pawiaku i na ciernistej drodze oświęcimskiej gehenny.

Drugi list nadszedł do mnie okolicznościowo, świątecznie. Była w nim osobliwa pocztówka zaprojektowana przez Jacka Milera „Wspomnienie": wsparta na dłoni głowa zamyślonej dziewczyny o wyrazistych, ciemnych oczach, choć twarz cała jakby za mgłą. W tle — barwy fioletu i wrzosu. Poniżej grupa małych żydowskich chłopców z chederu na tle — naszkicowanych zaledwie — drzwi synagogi. Białe koszulki, brązowe spodenki, czarne kapelusze. Całość na białym passe-partout. Tam, gdzie graniczy ono z obrazkiem, dobra ręka mego nadawcy domalowała barwną... choinkę. Wewnątrz, oprócz stosownych życzeń, znalazła się świerkowa gałązka.

Trzeci list, z Warszawy, nadszedł niespodziewanie w grudniu ub. roku, a w nim ciekawa artystycznie kartka „Grabarka", linoryt Andrzeja Mirkowskiego l. 15 z Czeremchy. Z niecierpliwością zajrzałam do wewnątrz: „Zarząd Społecznej Komisji Opieki nad Zabytkami Sztuki Cerkiewnej Towarzystwa Opieki nad Zabytkami składa serdeczne podziękowanie za wpłatę (...) na fundusz odbudowy sanktuarium na Św. Górze Grabarce. W podpisie: Bogdan Martyniuk".

Na odwrocie kartki cytat z Gogola wraz z apelem: „... Zwracamy się do wszystkich ludzi dobrej woli — pomóżcie ocalić cenne zabytki kultury, bo są one stopniem na drodze do doskonałości każdego z nas. Gdy znikną — każdy z nas, niezależnie od narodowości i wyznania stanie się uboższy".

I chociaż te słowa mówią wszystko, wyznaję: kartka z chamaiłu, sylwetka synagogi, Św. Góra Grabarka, promienisty portret Ostrobramskiej Pani — to wszystko dla mnie jest świętością, bowiem w jednakowym stopniu ukształtowało moją duchowość. To mój bagaż, wciąż obecny, w drodze z Północnego Mazowsza na Kresy... Odpowiadając na apel „Ratujmy Grabarkę" spłaciłam — w moim przekonaniu — drobną cząstkę długu zaciągniętego ze skarbca wartości duchowych minionych pokoleń. Dlatego też nie oczekiwałam konwencjonalnego „Dziękuję". Nie oczekiwałam tym bardziej, że nie wypowiadali go inni, gdy podziękowanie takie winno być rzeczą naturalną, odruchową.

„Kto szybko daje, dwa razy daje", mawiali starożytni Rzymianie. W myśl tej maksymy również i wartość podziękowania, którego jestem adresatką, liczy się co najmniej podwójnie.

Społecznej Komisji Opieki nad Zabytkami Sztuki Cerkiewnej wraz z wyrazami uznania przesyłam nieco spóźnione, lecz najlepsze życzenia Świąteczne i Noworoczne.

Nie mniej serdeczne kieruję pod adresem redakcji „Niwy".

Z poważaniem
**Teresa Zaniewska**
**Białystok**






*Беласток, вул. Кіеўская. Малюнак У. Петрука.*

# МЫ І АСЯРОДДЗЕ

**Наша асяроддзе ўжо вельмі знішчана і атручана, але мусім у ім жыць, і таму ахова прыроды гэта справа ўсіх нас. Ужо прайшлі гады, калі прырода сама магла сябе абараніць. Сёння прырода патрабуе дапамогі, і абавязак кожнага грамадзяніна — зрабіць нешта дзеля гэтай справы.**

**На Беласточчыне найчасцей гінуць дрэвы — елка, сасна, вяз, неўзабаве пасохнуць дуб і рэдкі бук. Большая частка лясоў знаходзіцца ў стане частковага забруджання, паменшылася здольнасць лясоў да ачышчэння паветра. Не хапае ачышчальняў сцёкаў, гаспадарчыя і сацыяльныя сцёкі забруджваюць равы і рэчкі.**

**Пагоршваецца якасць вады па прычыне няздольнасці фільтрацыі глебы. Зніжаецца ўзровень грунтовай вады і ўзнікае дэфіцыт пітнай вады. Бяднее свет раслін і звяроў, пагаршаюцца ўмовы сельскагаспадарчай прадукцыі...**

**Штораз цяжэй дыхаць у Бельску і Гайнаўцы — нашых прамысловых гарадах, а без паветра чалавеку не пражыць і пяці хвілін! Паветра забруджваюць прадпрыемствы, аўтамашыны, рухавікі ўнутранага згарання ў паравозах, кацельні, звалкі, на якіх падпальваюць смецце... Ніякі вецер не раздзьмухае шкоднага дыму, хаця нам здаецца, што ўсё гэта ляціць угару.**

**Ці мы ведаем, што, напрыклад, сучасная мэбля часта шкодзіць нашаму здароўю? Цяперашнюю мэблю робяць не з натуральнай драўніны, а з усялякіх склеек ды плітак, у якіх многа ракатворных рэчываў. Найбольш такога ў сценках і дыванах. Падумайце, ці не крыўдна за свае грошы купіць сабе хваробу?! Менш шкодзіць этэрніт, якім пакрыты дахі дамоў — там хоць, прадувае яго вецер. „Санэпід" даўно забараніў карыстацца шлакам (жужаль), але я няраз бачыў, як гаспадары рабілі з яго „пустакі", быццам бы і не чулі пра яго шкоднасць!**

**Амерыка свае бруды пасылае Канадзе, Англія — Францыі; двухвокіс серы мігрыруе сотні кіламетраў, пакуль не ападзе на зямлю, разам з „кіслымі дажджамі". Скажаныя імі лясы хварэюць і гінуць ад шкоднікаў, а адно вялікае дрэва можа пабраць з атмасферы і знішчыць столькі свінца, колькі яго ў 130 літрах бензіна! Адно вялікае дрэва можа абясшкодзіць у год 12 кілаграмаў двухвокісу серы. Кожнае дрэва — крыніца жыватворнага кіслароду. Гэта намнога больш, чым адна прыгажосць!**

**За памылкі мінулага плацім цяпер высокую цану. У нашым рэгіёне ўзнікла канцэпцыя „зялёных лёгкіх Польшчы". У Сувалках дзейнічае камітэт, які хоча вялікія мазурскія азёры давесці да першапачатковага стану... Ці гэта ўдасца?..**

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**




## ПАГРОЗА

Атрымаў ваш каляндар і некалькі нумараў „Нівы". Вялікі дзякуй! Прачытаў ужо чатыры нумары і зноў пашкадаваў, што мы тут не мелі магчымасці атрымліваць вашу газету. На мой погляд, яна стала яшчэ цікавейшая. Праўда, з некаторым. меркаваннем. вашых аўтараў я не згодзен. Так паважаны С. Яновіч сцвярджае, што на Беларусі няма пагрозы пераходу карэннага насельніцтва ў іншую (расейскую) нацыянальнасць. Па-першае, такія выпадкі і раней часцяком здараліся (і я іх ведаю), а па-другое, на мой погляд, зараз гэтая пагроза як ніколі вялікая. Мяркую па некаторых выказваннях у народзе. А потым, вы ведаеце, з'явіліся такія актыўна дзейнічаючыя на Беларусі рухі, як „Отечество", „Белая Россия", „Единство" і іншыя. Карацей, нас чакаюць яшчэ вялікія складанасці.

**Георгі Тарасевіч,**
Салігорск

# ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ

22 снежня 1990 года, у наканаваную ўрачыстасцю ў Каралеўскім Замку суботу, адбываўся ў сядзібе Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку III З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў. У з'ездзе ўдзельнічала ў парывах 36 чалавек. Нягледзячы на факт, што амаль усе падобнага характару мерапрыемствы ў краіне адбываюцца з святарскага дазволу і блаславенства, беларускія студэнты паважыліся выступаць усяго пад Пагоняй і трохпаласатым нацдэмаўскім сцягам.

З'езд адкрыў старшыня (а паводле сучаснай тэрміналогіі: прэзідэнт) аб'яднання Яўген Вапа, які зачытаў падрабязны рапарт аб дзейнасці арганізацыі ў мінулым годзе. Затым выступіў старшыня рэвізійнай камісіі, які не сцвердзіў у дзеяннях аб'яднання ніякіх парушэнняў статутных запісаў. Указаў ён таксама на неабходнасць змены некаторых запісаў у адпаведнасці з новай рэчаіснасцю ў краіне. З'езд ухваліў вотум даверу ўступаючаму кіраўніцтву БАСа. Мала-памалу пачала разгортвацца дыскусія. Як заўсёды, спачатку даволі нерухава, але, калі прысутны на абрадах прадстаўнік беластоцкага радыёвяшчання Юрка Ляшчынскі (колішні ветэран змаганняў за легалізацыю арганізацыі) закрануў справу колькасці ўдзельнікаў папярэдніх з'ездаў — дыскусія набрала маху. У мінулых двух гадах, нагадваў ён, на найвышэйшым форуме аб'яднання прысутнічала адпаведна 50 і 70 чалавек, а на славутым нелегальным з'ездзе першага БАСа ў 1981 даходзіла да двухсот удзельнікаў. З Варшавы нават на таксі гналіся ў Беласток заядлыя працаўнікі майго брата, як сам мне сказаў на вуха, каб паўстрымаць выбар ягонай асобы на прэзідэнта, а, мабыць, і ўвогуле сарваць абрады, дадам ужо ад сябе. Такая была тады кан'юнктура. Куды ж дзеліся тыя людзі? Нават, калі ўсе пажаніліся, дык дзеючыя зараз законы спрыяюць выспяванню новых пакаленняў. Зацікаўленне моладзі дзейнасцю ў БАСе, як здаецца, абумоўлена сягоння фактам, што людзям абрыдла ўжо якое-кольвечы палітыканства, якое няўхільна падразумяваецца ў дзеяннях кожнай арганізацыі. Пра палітыку і пайшла гаворка. Ці трэба студэнцкаму згуртаванню ў яе пхацца? Ці не палітычнасць прычынілася да таго, што на з'езд з'явілася ўсяго жменька з натоўпаў, якія гуляюць на „Атрасінах"? У тую пару, калі нараджаўся *цяперашні* БАС, палітычная афарбоўка, бо палітыкай лічылася тады абы-што, несумненна, прыцягвала да аб'яднання прыхільнікаў. Пазнейшыя яго акцыі ў выбарах трэба лічыць хутчэй маральным абавязкам у дачыненні да нашага маленькага адраджэння, чымсьці палітычнай гульнёю.




Было гэта пад канец лета. Выбраліся мы ў падарожжа. Мы — гэта я, пішучы гэтыя словы, мой дваюрадны брат Толік і яго бацька, а мой дзядзька Іван. Едзем мы ў Кентшын...

Кожны, яшчэ дыхаючы, мае поўна праблемаў і спраў — жыццё нам іх прыносіць. А мы круцімся, ходзім і ездзім, каб іх вырашыць. Вось таму і цяпер едзем на Толікавай „ладзе", каб „залатвіць" пэўную справу. Цэлую ноч не спалася. Дурныя думкі ў галаву лезлі. І а трэцяй над ранам выехалі „на скруты", як кажа Толік. А ён, шафёр добры, нямала год за рулём, вопыт мае. Хтосьці скажа: „Што тут пісаць? Што цікавага? Ці то мала цяпер людзей ездзіць?" Праўда, ездзяць, і то многа. І бензін дарагі. І наракаюць на жыццё. А вось наша падарожжа асаблівае. А гэта ў выпадку Івана Панасюка, які задумаў наведаць мясцовасці, дзе амаль паўвеку таму назад працаваў. Колькі там сумаваў! Колькі марыў аб сваіх Агародніках, што на Бельшчыне, недалёка ад Галадоў... Агароднікі — гэта яго родная вёска. Тут яго бацькі і сябры. Прайшло амаль пяцьдзесят год, і вось прыйшоў час Івана зноў наведаць „Усходнюю Прусію", даўнейшы Кінсберг, а там і вёску Трыгорт.

Едзе дзядзька Іван і маўчыць. Пэўна, думкі яго вярнулі пяцьдзесят год назад, у маладыя гады. Непаўторнае жыццё. Толькі час неспакойны. Вайна, акупацыя, прымусовыя работы. Вывазка ў Германію. Гэтага не забыць. І вось наша „лада" штораз прыбліжае яго да гэтых мясцін. Вязе ў мінулае. Толькі абставіны іншыя...

Даехалі мы да Венгажэва. Няраз прасіў Іван сына затрымаць машыну. Выходзіў, глядзеў, расказваў. Гаварыў, быццам усё стаяла перад яго вачыма. Нібы ўчора гэта ўсё было...

— Гэтай шашой вазіў я з вёскі ў горад маладога паніча. Праз вёску ехалі — я спераду, а ён ззаду. За вёскай клікаў да сябе і прасіў даць повады. Не шкадаваў яму. Добры быў ён да мяне... Ой, розна бывала. І сумна, і няраз весела... Маладосць свае колеры мае... — раптам зарагатаў дзядзька Іван. Пэўна, штосьці цікавае мільганула. Толькі сказаць не хоча. Яго справа...

— Ведаеце, хлопцы, тут недалёка ад мяне жыла мая аднавяскоўка. Веркай яе звалі. Асталася тут пасля вайны, выйшла замуж. Па мужыку звалі Верай Блашчык. Давайце пашукаем.

— Што ты, бацьку?! Столькі гадоў — гэта так, як кажуць, шукаць іголку ў стагу сена...

— Ціха, сыну, яшчэ кажуць і так: „Хто пытае, той знойдзе". Ну, і „Гара з гарою". Едзем у вёску Трыгарт!

Вёска як вёска. Да нашай, беластоцкай, ёй далёка. Дамы старыя, панямецкія. Ніхто іх не рамантуе і новых не будуе. Дажываюць абы-як...

— Тут жыццё затрымалася пяцьдзесят год назад! — кажа Толік. — І праўда. Толькі што нам да гэтага? Мы сваё зробім і дахаты.

Затрымаліся мы на сярэдзіне вёскі, каля аўтобуснага прыпынка. Насупраць — крама з выбляклай шыльдай. А каля прыпынка сядзіць некалькі кабетак. Толік запытаў пра Верку Блашчык.

— А як жа, — кажуць жанчыны. — Ёсць такая. Жыве тут. Толькі вы пераехалі, вярнуцца трэба назад, у напрамку Венгажэва. Беленькі домік каля шашы...

— А што, не казаў? — Іван павесялеў. — І зноў прыказка апраўдала сябе...

Знайшлі мы хутка беленькі домік. Перад ім — агародчык з кветкамі. Па ім можна здагадацца, што тут жыве жанчына з працавітымі рукамі. А ў гэтай вёсцы мала такіх агародчыкаў. Зусім іншы краявід. Гэта не наша Беласточчына, не нашая раўніна. Тут адны ўзгоркі і азёры...

Стаім насупраць доміка і мяркуем, як сустрэнемся з нашай зямлячкай... Пайшоў Толік шукаць. Кругом цішыня. Едуць шашой фуры ў Венгажэва. Раніца такая, як і ў нас. Спяваюць птушкі. Дзень, пэўна, прыгожы нам выпаў. Сонейка выкацілася з-за горкі, весялей стала дыхаць.

Вядзе Толік жанчыну. Апранута прыгожа. З выгляду яшчэ „нічога". На свае гады на нашай вёсцы кабеты горш выглядаюць.

— Грыша! Яна! — штурхануў мяне Іван. — Верка! Дальбог, Верка! — І Іван з „лады" выскачыў, як падшпарак...

Прывіталіся шумна, галасна, з пацалункамі.

— А кто ты естэсь? Чый сын? Хлопец мувіл, жэ з Огороднік. З моей вёскі. Толькі чый ты естэсь? — запыталася жанчына.

— Верка, не пазнала?! Я ж Нікіты сын! Ванька Панасюк. Ты падумай! Разам тут працавалі, пяцьдзесят год таму! Я жыў недалечка ад цябе, каля чыгункі.

— Ванька! Ванька каханы! О Езу Хрыстэ! То ты? Коханы! О, Ванька дрогі! О, нігды не позналабым... — і слёзы радасці закрылі ёй вочы.

Такога плачу замала нам бывае. Гэта плач успаміну, радасці. Гора і ўсяго перажытага. Плач сустрэчы. Плач падзякі Богу, што дае нам магчымасць жыць і яшчэ сустракацца...

— Прабачце, дродзы. І выбачце мі, жэ по польску муве. Мувце па-нашаму! Я вшыстко розумем.

Гэта была сустрэча людзей, якія пражылі палавіну веку, не ведаючы пра сябе. А лёс, дзякуй Богу, даў магчымасць спаткацца зноў, ды зноў тут, на даўняй варожай зямлі.

Праўда. Сустрэча зусім іншая. Абставіны іншыя. І колькасць гадоў павялічылася амаль на пяцьдзесят. Пытала Верка і перапытваў Іван.

— Я вось засталася адзінокая. Сыны пажаніліся.

А дарога Івана ішла праз Расію. Толькі гэта магла б быць тэма другая.

Вера абцалавала нас усіх, гаворачы: „ Я вам зайздрошчу. Вось вы багатыя. Не грашыма, не, а тым, што між сваімі жывеце. Свая мова, родныя, блізкія. Свая зямелька. Тут усё чужое, не нашае. Мушу тут жыць. Тут мае сыны, унукі і амаль усё жыццё я аддала гэтай зямлі. Што зробіш? Вас не забуду, яшчэ раз вас пацалую. Прашу, прыязджайце да мяне! Летам можна, на адпачынак. Буду вельмі рада. Кожны беларус мне сэрцам мілы. Дзе б не жыў..."

Адна бяда, што нам заўсёды часу не хапае. Сустрэлі зямлячку, а ў хату не зайшлі, часу бракавала. А яна так нас запрашала!

За адзін дзень многа здарылася. Дзядзьку Івану мы знялі з плячэй пяцьдзесят гадоў.

**Г. Мароз**

---

Зараз, калі ў Польшчы ідэі дэмакратыі і нацыянальнага збавіцеля ўвасобіліся, можна і трэба адводзіць большую ўвагу тыпова студэнцкім формам дзейнасці. Ва ўмовах капіталізму патрабуюць яны немалых фінансавых сродкаў, далёка большых, чым у дадэмакратычны перыяд. І тут выступіў сакратар ГП БГКТ і каардынатар Краёвай управы БДА ў адной асобе Віктар Стахвюк. Беларускае аб'яднанне студэнтаў мае неад'емнае права карыстацца фінансамі, адведзенымі на развіццё культуры беларускай меншасці з дзяржаўнага фонду, таму што з'яўляецца яно праявай актыўнасці гэтай меншасці ў галіне культуры — тым больш важнай, што сучаснай, маладзёжнай. Так яно і павінна быць, але адкуль тут узяць яшчэ 30 мільёнаў на „Басовішча"? Пэўную надзею дала ўдзельніца з'езда Ганна Кандрацюк, вядомая ў мінулым дзяячка студэнцкага руху, а зараз працаўніца варшаўскай фірмы *Biapol*. Прывітаўшы з'езд ад кіраўніцтва фірмы, паведаміла, што ўзамен за рэкламу БАС можа разлічваць на фінансавую падтрымку з боку прыватнага бізнесу.

У выступленні ўступаючага старшыні аб'яднання згадвалася пра дасягненні ў выдавецкай дзялянцы. Наступны год, на жаль, не явіцца для студэнцкіх выданняў у прываблівых колерах: стрымгалоў узрастаючыя кошты друку, вузкае кола чытачоў, стопрацэнтная матэрыяльная нерэнтабельнасць. З'езд выказаўся за тое, каб БАС трымаў лучнасць са светам праз ніўскую „Прысутнасць" (аб персанальнай адказнасці за гэтую старонку мае вырашаць новая Галоўная рада). Дадаткова прынята пастанова аб апублікаванні ў адмысловай форме гісторыі БАСа. Галоўны рэдактар басаўскага эксквартальніка „Сустрэчы" Мікола Ваўранюк, усведамляючы, бадай, усю складанасць выдавецкага працэсу, абавязаўся, цытую, „падрыхтаваць яшчэ адзін нумар часопіса", а прысутныя на з'ездзе рэдактары двухмоўнага „Часопіса", усведамляючы, мабыць, тое самае, дамагаліся запісу ў пастановах аб падтрымцы іхняга выдання — падтрымцы хаця б маральнай. Выглядае, што для выданняў, якія неадступна суправаджалі беларускі студэнцкі рух на працягу цэлай яго гісторыі, надыходзіць цяжкі час. Да таго, усякі элемент, які ўмее звязаць па-беларуску сказ, раней ці пазней насяляе берагі Іст-Рывера. Адзінае разумнае ў такой сітуацыі выйсце запрапанаваў Валодзя Пац. Трэба падключыцца да міжнароднага студэнцкага руху і ўсе прагныя выраю птушкі выпускаць туды праз БАС, беручы ад іх пры нагодзе тое, што БАСу належнае. Вось што патрэбнае! Перапынак на папяросу.

Са скамплектаваннем новай Галоўнай рады і выбарам прэзідэнта былі традыцыйныя ўжо клопаты. Пра палову прынятых пастаноў з'езд не выказаўся дастаткова ясна, перадаючы канчатковае іх вырашэнне ў кампетэнцыю Галоўнай рады. Цяжар гэтай падвойнай адказнасці ўзялі на сябе галоўным чынам студэнты малодшых курсаў, якія ўвайшлі ў новае кіраўніцтва БАСа. На прэзідэнта БАСа з'езд выбраў Валодзю Паца з ольштынскага акадэмічнага асяроддзя. Прэзідэнт-абраннік не толькі што паабяцаў сябрам аб'яднання заакіянне, але неафіцыяльна заявіў, што ўсе рэгаліі сваёй улады жадаў бы пераняць ад прэзідэнта БАСа ў выгнанні, а не ад свайго папярэдніка на этнасе. У сяміасабовую новую Галоўную раду ўвайшоў і аўтар гэтага артыкула, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя яму акалічнасці. Праз недагляд не атрымаў я выбарчага білета і не мог прагаласаваць за сваю кандыдатуру, а сакратар з'езда, паказваючы правільнасць галасавання, выкрасліў маё прозвішча, апраўдаўшы гэта маёй схільнасцю да палітыкі цвёрдай лініі.

Новая Галоўная рада БАС на сваім першым пасяджэнні, якое адбылося зараз жа пасля заканчэння з'езда, назначыла тэрмін рабочай сустрэчы сваіх сябраў і пытанні, якія возьме тады на разгляд. 19 студзеня, акрамя дробных арганізацыйных спраў, Галоўная рада зоймецца выпрацаваннем лініі БАСа ў Радзе беларускіх арганізацый у Польшчы ды ацэніць арганізацыйны і фінансавы патэнцыялы арганізацыі ў сувязі з фестывалем музыкі Маладой Беларусі „Басовішча".

**Аляксандр Максімюк**

# Іх папараць-кветка або ў амерыканскіх беларусаў

## 5. БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Нягледзячы на тое, што я ведала аб існаванні амерыканскіх беларусаў дзякуючы прэсе і ўражанням іншых, тых, якія ўжо пабывалі ў Амерыцы, а да таго ж яшчэ часамі з Канады і Злучаных Штатаў прыязджалі на Беласточчыну нашы людзі, заходзілі ў рэдакцыю і шмат расказвалі пра сваё жыццё, — аднак паняцце „амерыканскі беларус“ надалей заставалася для мяне даволі расплывістым, а пра іхняе жыццё я, як, мяркую, і большасць маіх калег, мела даволі цьмянае ўяўленне.

Нават тых, што дзейнічалі ў беларускіх арганізацыях, я бачыла ў думках зусім інакш. Мне здавалася, што фактычна гэта звычайныя амерыканцы, мо толькі з нейкай там сваёйскай этнаграфічнай афарбоўкай. Толькі на месцы, у ЗША, а асабліва ў Нью-Йорку, я пераканалася, што жыве там моцная група свядомых беларусаў са старой беларускай эміграцыі. І калі яшчэ ў нейкай ступені магчыма было б назваць іх беларусамі з амерыканскім адценнем, дык ніколі — амерыканцамі.

Іхнія дзеці гэта ўжо іншая справа. Найчасцей яны нарадзіліся ў Амерыцы, тут пазаканчвалі школы, большасць — вышэйшыя, і жыцця па-іншаму не надта сабе ўяўляюць. Родную мову вынеслі з бацькоўскіх хат і карыстаюцца ёю лепш ці горш у залежнасці ад прывязанасці да мовы бацькоў і ад таго яшчэ, ці часта сустракаюцца ў сваім гурце. Аднак большасць з іх мае моцнае пачуццё беларускасці. Можна было б тут пералічваць даволі доўга... Данчык (які, здаецца, мог бы выкладаць беларускую мову з віленскага міжваеннага перыяду ва універсітэце; яго ж выхавала, хаця і ў Нью-Йорку, але бабуля Яніна Каханоўская, пляменніца славутых братоў Луцкевічаў) і яго брат Юрчык Андрусішын, Алеся і Юрка Кіпель, Аня і Антон Бартуль, Юрка Азарка, Вера Запруднік і г.д. і г.д. Нават Паўлік і Коля Рамана, хаця бацька іх — італьянец, гавораць па-беларуску.

Мінчанка Наталля Вярбоўская прызналася мне, што табарыць па-беларуску яна навучылася ў часе некалькімесячнага прабывання ў Амерыцы. Такі ўжо ў іх там звычай, што беларусы між сабою размаўляюць па-беларуску! Гурток „Васілёк“, у якім моладзь збіраецца на беларускія танцы і спевы (а кіруе ім вядомая ўжо нашым чытачам д-р Ала Орса-Рамана) збліжае маладых людзей і не дазваляе забыць родную мову. Паўтара года таму назад „Васілёк“ сустрэўся з беларускай моладдзю Беласточчыны, а ў мінулым годзе пабываў у Мінску і ў іншых гарадах Беларусі, а таксама гасціў у віленскіх беларусаў. Было гэта, я б сказала, двухбаковае вяртанне ў сваю моўную стыхію і невядома, які бок на гэтым больш скарыстаў.

Вернемся, аднак, да бацькоў. Каварны лёс кінуў іх на чужую зямлю. але тады выбару ў гэтых людзей не было. За акіянам часта пачыналі ад нуля. Вось хаця б і Бартулі, спачатку ж яны гняздзіліся ў двух невялічкіх нанятых пакойчыках... З часам тутэйшыя беларусы, народ ад прыроды працавіты, здабылі адносны дабрабыт, далі сваім дзецям вышэйшую адукацыю, маюць дамы, кватэры... Але тут яны целам; душы іх быццам адзяліліся і засталіся ў родных, пакінутых хатах на небагатай беларускай зямлі.

Працуючы ў розных беларускіх грамадскіх арганізацыях, створаных у Злучаных Штатах Амерыкі, яны цікавяцца рознымі праявамі жыцця на Беларусі, горача адклікаюцца на ўсе свежыя факты і падзеі. Не застаюцца ўбаку, калі братам патрэбна дапамога. І таму менавіта іх дзеці выраслі таксама беларусамі.

А трэба адзначыць, што дзяржава Злучаных Штатаў ім у гэтай іх высакароднай працы фінансава не дапамагае. Аднак жа і не забараняе дзейнічаць у розных галінах беларускага культурнага жыцця. Канадскім беларусам у гэтых адносінах значна лягчэй — ім дзяржава, хаця і нязначна, усё ж дакладае. Дзейнасць амерыканскіх беларусаў, такім чынам, фінансуецца імі самімі, г.зн. аплочваецца яна са складак беларусаў — членаў БАЗА (Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Амерыцы) і членаў БАЗМ (Беларуска-амерыканскага задзіночання моладзі). Грошы ж патрэбныя на выданне штомесячнай газеты „Беларус“, на сустрэчы, з'езды, прыём гасцей. Можна пазайздросціць ім такой актыўнасці! — Іншая справа, што і даваць маюць з чаго, калі гэтыя людзі адукаваныя і працуюць.

І тут неабходна падкрэсліць яшчэ адну добрую рысу амерыканскіх беларусаў — іх нязвыклую працавітасць і адданасць сваёй прафесіі. Не сустрэнеш сярод іх абібокаў. Калі ўжо беларус пастанавіў, дык здабыў адукацыю. Цешыць яшчэ тое, што амаль усе беларусы працуюць у цікавых прафесіях. З кім я толькі не сустрэлася, дык быў

# ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ

(Працяг са стар. 1)

*торыкі вельмі часта затрачвалі сваю навуковую этыку не з прычыны палітычных абмежаванняў, а з-за чыста кан'юнктурных спраў. Проста, пісаць для сваёй навуковай кар'еры было выгадна.*

— Сапраўды, у савецкай гістарычнай навуцы на Беларусі стварыўся тып гісторыка-кан'юнктуршчыка, які гатоў быў па загаду ўлады або сваіх навуковых начальнікаў нават і змяняць ацэнкі гістарычных асоб і падзей. Такі гісторык піша свае працы не дзеля навукі, не для народа, а для начальства. Ён страціў зваротную сувязь з чытачом, арыентаваны толькі на вышэйшую інстанцыю, амаль зусім пазбаўлены пачуцця адказнасці за вынікі сваёй працы. Такому чалавеку ўсё роўна, ці будуць чытаць ягоныя працы і давяраць, ці не. Абы выйшла кніга ці па меншай меры артыкул. Галоўнае для яго, каб начальства было задаволена — і высокае і малое, непасрэднае. Своеасаблівы выпуск прадукцыі дзеля выпуску прадукцыі і дзеля справаздач.

Аналіз тэматыкі доктарскіх (г.зн. габілітацыйных) дысертацый, абароненых у рэспубліцы за апошнія дзесяць гадоў, паказвае, што 90 працэнтаў з іх было прысвечана тэматыцы двух апошніх дзесяцігоддзяў „эпохі камуністычнага будаўніцтва ў БССР“. А ці можна гэта ўвогуле назваць навукай? Тое ж самае датычыцца і кандыдацкіх (г.зн. доктарскіх) дысертацый. Такім чынам камандна-адміністрацыйная сістэма на Беларусі з яе таталітарнай ідэалогіяй стварылі адпаведную сістэму гістарычных кадраў рознай кваліфікацыі, якая і прывяла да крызіснага становішча ў беларускай гістарычнай навуцы. Гэта, з аднаго боку, разбэшчванне навукоўцаў (лёгкая абарона прац, добрыя пасады, нядрэнныя пенсіі і эмерытуры), з другога, несумленнасць людзей такога тыпу.

*— Ведаю, што вы самі не захацелі падпарадкавацца гэтаму адміністрацыйна-палітычнаму абмежаванню. У выніку гэтага вымушаны былі кінуць працу ў Акадэміі навук і стаць працаваць у Інстытуце культуры.*

— Так, я працаваў 16 гадоў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР (з 1959 да 1975 г.), у апошнія гады старэйшым навуковым супрацоўнікам. Але мусіў з Акадэміі адыйсці, бо падпарадкавацца пастаяннаму націску і загадам не захацеў. Асаблівa гэта выявілася, калі ў 1971—1975 г.г. была падрыхтавана да выдання кніга па гісторыі Беларусі ў XIII—XIV ст.ст., фактычна пра Вялікае княства Літоўскае. Я фактамі, нават падлікамі колькаснага складу паноў рады Вялікага княства Літоўскага, аналізам культурных з'яў, моцнай пазіцыі Праваслаўнай царквы, дзяржаўнага ладу даказваў, што гэта была Беларуска-Літоўская дзяржава, але ж чатыры сааўтары вялікай манаграфіі і 7(!) навуковых рэдактараў з высокімі навуковымі ступенямі вымагалі ад мяне, каб я адмовіўся ад сваіх поглядаў. Я не згадзіўся, і трэць кнігі (каля 10 артыкулаў з 30), мой аўтарскі тэкст, была выкінута, а я выведзены са складу аўтараў. Трэба было даказаць, што гэта была літоўская дзяржава. Кніга, быццам бы, павінна ўрэшце выйсці ў гэтым ці наступным годзе з пазіцый пазаўчарашняга дня.

Да таго начальства не давала мне магчымасці абараніць доктарскую (г.зн. габілітацыйную) дысертацыю, затрымлівалася публікацыя маіх артыкулаў, кніг. То я мусіў развітацца з Інстытутам гісторыі Акадэміі навук БССР. У 1975 г. быў адкрыты Мінскі інстытут культуры, куды мяне запрасілі на пасаду загадчыка кафедры гісторыі СССР і замежных краінаў. Я згадзіўся, але паставіў умову, каб кафедра займалася і гісторыяй Беларусі, то ўрэшце яе назвалі Кафедрай гісторыі СССР, БССР і замежных краінаў. У сакавіку 1990 г. вучоная рада інстытута культуры патаемным галасаваннем аднагалосна (54 галасы) абрала мяне на чарговы пяцігадовы тэрмін (у інстытуце выбіраюць на пасаду кожныя 5 гадоў) загадчыкам кафедры, нягледзячы на тое, што з'яўляюся дэпутатам (сябрам) сойму Беларускага народнага фронту „Адраджэнне“. А доктарскую (габілітацыйную) працу пра магнацкія гарады (такія, як Беласток, напрыклад) Беларусі і Літвы ў XVI—XVIII ст. я абараніў у свой час у Вільні, ва універсітэце. Там перашкод не было. Пасля гэтага ўжо ў Маскве мне прысвоілі навуковы тытул прафесара. Цяпер я працягваю весці дыдактычную працу са студэнтамі, кірую кафедрай (10 выкладчыкаў, 2 лабаранты), вяду навуковую працу пра палітычную гісторыю Беларуска-Літоўскай дзяржавы і пра гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама пра гісторыю Царквы на Беларусі, перш за ўсё праваслаўнай, у XIV—XIX ст. У гэтым годзе ездзіў у Англію, дзе чытаў лекцыі ў Лонданскім універсітэце, ездзіў у Рым на навуковую канферэнцыю па гісторыі Усходняй Еўропы (была сустрэча ўдзельнікаў канферэнцыі з папам рымскім). Цяпер заканчваю сваё прабыванне ў Беластоку. Сустракаўся з прафесарамі і студэнтамі Беластоцкай філіі Варшаўскага універсі-

 


Антон Бартуль з маці.

гэта як не лекар, то інжынер, як не журналіст, то адвакат, як не фармацэўт, дык музыказнаўца і г.д.

Гэта толькі нам, прыехаўшым у Амерыку ў госці, на ўсё гатовае, магло здавацца, што ім тут, у эміграцыі, сыплецца манна з неба. О не! Ніхто іх тут не чакаў і не падрыхтаваў ім грунт для прыезду. Шукалі самі, дзе лепш, бо засталіся без кала і двара.

...Мае позневячэрнія роздумы пасля сустрэчы ў святліцы нью-йоркскай царквы Кірылы Тураўскага перарывае Антон, які голасна просіць, каб маці падвезла яго заўтра на заліў. Бацька ж паехаў на работу Антонавым самаходам (бо якраз прадаў свой, а новы не паспеў яшчэ набыць).

Сын Антон чамусьці захапляецца вельмі каштоўным водным спортам. Гэта відаць нават па ім. Ён высокі, мускулісты, загарэлы. Сёння яму бацькі на гэта дазваляюць, а калісь дачцэ Ані (сёння стаматолагу з прыватным кабінетам) у школу не дазвалялі ездзіць на машыне. Антону 24 гады. Сёлета ён заканчвае фармацыю. Бацькі плоцяць за яго вучобу ў прыватнай вышэйшай школе круглую суму 10 тысяч долараў у год. Мяркуюць купіць яму ў будучыні аптэку, але пакуль што раяць Антону пайсці вучыцца яшчэ на юрыдычны факультэт. Спалучэнне двух названых вышэй прафесій дае вялікія перспектывы на будучыню. Бацькі на навуку грошай не пашкадуюць, абы хацеў вучыцца.

Антону нядаўна купілі водны матацыкл (джэт скі), які ён просіць зацягнуць на прычэпе на Манхасэт бэй. У пакоі хлопца на сцяне выэкспанаваны тры гумаваныя каляровыя касцюмы, якія надзявае Антон, калі мае ехаць на гэтым матацыкле.

Тыя пяць тысяч долараў, якія аддалі за „джэт скі", давядзецца Антону, аднак, у нейкай ступені адрабіць. Каб ведаў смак і цану працы! Таму пару разоў у тыдзень ездзіць ён у бацькаў „офіс" і прыбірае там. Усё ж не трэба прыбіральшчыцы — і лішні грош застаецца ў сям'і. Каб крыху падзарабіць на свае выдаткі, Антон зрабіў рамонт у хаце сястры, ды ў дзедавай хаце таксама. І сваю хату рамантуе, вядома, разам з бацькам. На мінулых канікулах працаваў у спартыўнай краме. Працаваў там з калегам. А сёлета калега жаніўся і запрасіў Антона на вяселле. Во гэта дык былі мільянеры! За адзін апартамент у гатэлі, у якім пераспаўся адну ноч Антон і яшчэ тры хлопцы, гаспадары мусілі заплаціць пяць тысяч долараў...

...Трэба класціся спаць, заўтра — апошні дзень перад падарожжам у Кліўленд, на сустрэчу беларусаў ЗША і Канады, і трэба было б адпачыць перад доўгай, амаль тысячакіламетровай дарогай.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

тэта, Каталіцкага універсітэта ў Любліне і Торунскага універсітэта, дзе чытаў таксама лекцыі па гісторыі Беларусі. Наладзіў кантакты для сумеснай працы гісторыкаў Беларусі і Польшчы. Вельмі ўдзячны грамадскасці Беластока, і ў першую чаргу дзеячам БГКТ і БДА, якія мяне вельмі добра прынялі. Вельмі прыемнай і карыснай была сустрэча з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савам. Я спадзяюся на далейшыя сустрэчы. Асабліва ўдзячны я спадарам Веры і Юрыю Латышонкам, маім блізкім знаёмым, якія прымалі мяне яшчэ ў кастрычніку мінулага года.

— *Чым займаецца Інстытут культуры ў Мінску?*

— Мінскі інстытут культуры, які быў утвораны ў 1975 г., рыхтуе бібліятэкараў і бібліяграфаў усіх спецыяльнасцей, а таксама працаўнікоў культурна-асветніцкай працы, г.зн. кіраўнікоў дамоў культуры ды іншых культурных устаноў, рэжысёраў самадзейных тэатраў і калектываў, кіраўнікоў акадэмічных і народных хораў, балетмайстраў, кіраўнікоў музычных аркестраў, эстрадных і духавых. У гэтым годзе ў Інстытут прыняты і вучацца дзве дзяўчыны з ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Усім студэнтам выкладаецца гісторыя Беларусі, СССР (фактычна Расіі), найноўшая гісторыя замежных краін, а з гэтага года і старажытная гісторыя, і гісторыя сярэдніх вякоў. Наша кафедра больш трох гадоў таму пачала выкладанне гісторыі Беларусі і СССР (ад старажытных часоў) на беларускай мове, калі гэта яшчэ лічылася нейкім апазіцыйным крокам, і тады было непрыхільна сустрэта гісторыкамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Мінскага педагагічнага інстытута. Частку курсаў (там, дзе вучацца студэнты з Афрыкі, Азіі і Паўднёвай Амерыкі) паводле міжнародных пагадненяў чытаем на расейскай мове. Праўда, не ўсе выкладчыкі, асабліва прыезджыя, могуць чытаць лекцыі на беларускай мове.

— *Скажыце, якія ёсць сёння праблемы з гістарычнай навукай? Што трэба зрабіць, каб яна сапраўды стала нацыянальнай?*

— Праблемы з гістарычнай навукай сёння застаюцца ў сувязі з тым, што на Беларусі камандна-адміністрацыйная сістэма яшчэ захавала моцныя пазіцыі. Гэта перашкаджае выхаду з крызісу. Гэта, перш за ўсё, шматлікія кадры дэнацыяналізаваных гісторыкаў, падрыхтаваных на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта (праўда, не ўсе) і педагагічных інстытутаў у адпаведнасці з канонамі беларускай гістарычнай навукі паводле Л. С. Абэцэдарскага і ягоных наступнікаў. Асабліва варожа ставяцца і будуць ставіцца да пераасэнсавання гісторыі Беларусі найбольш кваліфікаваныя кадры (дактары і кандыдаты навук), якія абаранілі дысертацыі, апублікавалі кнігі на дагматычнай аснове і атрымалі добрыя пасады. Але гэта ўжо людзі ўчарашняга і пазаўчарашняга дня.

Ідэя нацыянальнага адраджэння Беларусі, якая ў гістарычнай навуцы, між іншым, патрабуе вяртання з нябыту імёнаў і твораў беларускіх гісторыкаў 20-х гадоў, а таксама імёнаў і твораў беларускіх гісторыкаў з-за мяжы, усё больш набывае сілы. Гэтую ідэю падтрымліваюць даўно тыя гісторыкі больш старэйшага пакалення (такія, як прафесар М. Ткачоў, дацэнт В. Грыцкевіч з Ленінграда, археолаг кандыдат навук М. Чарняўскі), якія здолелі не паддацца масаваму лозунгу адлучэння беларускага народа ад ягонай багатай і шматкаляровай гістарычнай спадчыны.

Гэтую ідэю нацыянальнага Адраджэння на Беларусі з кожным годам усё больш падтрымліваюць і здзяйсняюць шырокія колы беларусаў, моладзі, а сярод іх маладыя гісторыкі. Крызіс беларускай гістарычнай навукі — гэта частка агульнай бяды беларускага народа — павінен быць пераадолены агульнымі намаганнямі здаровых сіл нашага грамадства. Я веру ў тое, што хутка прыйдзе час, калі беларускі народ будзе мець сваю нескажоную, сапраўды навуковую, праўдзівую гісторыю.

— *Ці Вы бачыце патрэбу супрацоўнічаць з беларускімі гісторыкамі, якія жывуць у Польшчы і эміграцыі?*

— Я ўжо гаварыў, што сустрэчы з беларускімі гісторыкамі, якія жывуць у Польшчы і на эміграцыі, неабходны. Такія сустрэчы і пастаянныя кантакты даюць магчымасць вырашаць, якія праблемы ў гістарычнай навуцы найважнейшыя ў дадзены момант, што нас нуртуе сёння, што трэба будзе вырашаць заўтра. Такія сустрэчы дапамагаюць супастаўляць свае погляды, свой навуковы даробак, ды й часам проста даведацца, хто ўжо рыхтуе або падрыхтаваў тую ці іншую цікавую навуковую працу.

Такія сустрэчы і пастаянныя кантакты дапамагаюць выйсці з крызіснага становішча ў беларускай гістарычнай навуцы.

Мяркую, што адной з формаў такой сувязі паміж гісторыкамі з'яўляюцца і навуковыя канферэнцыі ў розных краінах. Папершае, навуковае абмеркаванне рэфератаў дапамагае аўтарам удасканальваць тэкст, знаходзіць новыя аргументы, новыя доказы. Па-другое, такія кантакты ў кулуарах канферэнцыі, у асабістых прыватных размовах, даюць магчымасць навукоўцам больш цесна пазнаёміцца не толькі з дакладчыкам, але і з ягоным падыходам да розных праблемаў гістарычнай навукі, да яго, як кажуць, творчай лабараторыі, да ягонай асобы як чалавека.

Я спадзяюся на больш шырокія і больш цесныя кантакты з беларускімі гісторыкамі, якія жывуць у Польшчы і на эміграцыі. Гэта паспрыяе далейшаму развіццю беларускай гістарычнай навукі, далейшаму працэсу Беларускага Адраджэння.

— *Шчыра дзякую за размову.*

Гутарыў **Антось Мірановіч**



 

# У АДНОЙ ВЁСЦЫ

(Працяг са стар. 3)

**шыя, грошай не шкадаваў ні для дзяцей, ні на гаспадарку. Што ён — рай ёй абяцаў, ці што? А яна выдавала столькі, быццам у яго склепе была шахта золата. Ну, то пачаў скупіць, зачыняць шафы, халадзільнік...**

**— На ключ?**

**— А як жа! Выдзяляў, колькі яды трэба і што купіць дзецям, нават на сшыткі, купляў сам усё да гаспадаркі. І гэта ўсё.**

**— Усё? А Надзя? — пытаю.**

**— А гэты Б. з Гайнаўкі? — смяецца пан Сасніцкі.**

**— Надзя была першай яго дзяўчынай... А што зробіш, калі жонка адмаўляецца?.. А Надзя ніколі не перастала яго чакаць...**

**— Значыць — першае каханне ніколі не астыне? Дык чаму прэтэнзіі да Зосі?**

**— Жонка ёсць жонка. Кабеце гэта непрыстойна, асабліва калі яна ў гадах, за чужымі аглядацца. Ёсць жа дзеці, людзі глядзяць. Хто гэта такое бачыў?!.. Дзеці дарослыя, і яны што скажуць — не падумала? А потым — так усё кінуць і ісці ў свет? — абураецца пані К.Б.**

**— Я чула, што яна паехала да бацькі.**

**— Узламалася да сямейнай касы, забрала ў Паўла дзесяць мільёнаў і прапала. Усё пакінула, толькі грошы ўзяла.**

**— Гэта былі і яе грошы. За 30 гадоў — толькі 10 мільёнаў? Выгадавала дзяцей, працавала, як вол...**

**— Ніхто не спадзяваўся, што Павал з гэтага ўсяго пойдзе ды ўтопіцца! Прыехаў з інтэрната наймалодшы сын — глядзіць: картка ад маці за люстэркам, што кідае іх, бо ўжо не можа жыць, а ніжэй — ліст ад бацькі, што ідзе ўтапіцца... Знайшлі Паўла пару кіламетраў далей у рэчцы, запутанага ў багавінне... Цяпер хата стаіць пустая. Старэйшая дачка распрадала ўсю жывёлу, сабаку і ката забралі суседзі. На дзвярах замок вісіць, ржавее.**

**МІРА ЛУКША**




**Яўген** (Беласточчына). 29 гадоў. Жыву на вёсцы з мамай і малодшым братам, маю ад нядаўна ўласную гаспадарку (механізую яе), свой дом. Сам я высокі, стройны мужчына, спакойнага характару. Шаную людзей, люблю прыроду. Хачу пазнаёміцца з добрай, працавітай дзяўчынай (да 35 гадоў) з Беларусі.

☼

**Жорж** (Беласточчына). 31 год. Працую і жыву ў горадзе (свая кватэра). На вёсцы ў мяне вялікі ўласны дом. Хачу пазнаёміцца з прыемнай з выгляду (але гэта не найважнейшае), мілай, працавітай дзяўчынай з Беларусі.

☼

**Зінка** (Беласток). 36 гадоў, замужам не была. Мілавідная брунетка. Маю цікавую працу (добра зарабляю), сваю аўтамашыну. Пазнаёмлюся з культурным, непітушчым мужчынам.

☼

**Лясная** (Беласточчына). 58 гадоў, удава, бяздзетная. Спакойная, пачцівая. Сярэдняга росту, нятоўстая. Абрыдла мне ўжо самота. Хачу сустрэць яшчэ ў сваім жыцці Чалавека, з якім можна пачаць новае жыццё. Добра, каб быў непітушчы, роўнага характару.

☼

**Ірынка** (Беласток), 32 гады. Пухленькая брунетка, спакойнага характару. Замужам не была. Цікаўлюся домам (добрай кухняй, вязаннем на прутках, модай), літаратурай. Пазнаёмлюся з сімпатычным панам.

☼

**Бібі** (Беласточчына). 25 гадоў. Высокая бландзінка. Адукацыя паўвышэйшая. Хоча пазнаёміцца з хлопцам з вёскі, у якога добрая, добра механізаваная гаспадарка, вялікі, добра абсталяваны дом, і, што найважнейшае, добры характар!




Астроне, нейкі, мусіць, нядобры сон прысніўся майму зяцю. А вось што. Зяць бачыць свайго бацьку (няма яго ў жывых) — ён голы ходзіць. Потым уваходзіць у зяцеву хату і кажа: „Ты робіш такі прыём багаты, а ці ты гарэлку маеш?" І так тры разы ўваходзіў і тое ж самае паўтараў. Сталы былі не застаўлены, нічога на іх не было.

А вось мне такі сон прысніўся. Іду я лесам, дарогаю. Гэта дарога зяця. Нейк я так прыглядаюся гэтай дарозе. Прайшла кусок і бачу высокія дрэвы, і сцэна высокая там зроблена. І што дзіўнае: яна чорная. Навокал пуста, а я гавару ўголас: „Што гэта такое?" І хаця нікога няма, нейкі голас адказвае: „На гэтай сцэне будзе іграць аркестр, калі Сярожа (гэта мой зяць) будзе браць шлюб". Я здзівілася: чаму ж такая чорная, калі мае быць шлюб?

Іншы сон. Іду, а ад хлява ідзе баба — як Баба Яга. Я гляджу і аж злякалася. Ужо і прачнулася, а ў вачах бачу тую Бабу Ягу на дарозе.

І другі раз сніцца тое ж самае месца. Толькі іду з-пад хаты пад клуню. І тая ж самая жанчына. На столках ляжыць палена доўгае, а яна пілкаю яго рэжа. Але не так, як рэжуць, а пасярэдзіне. Я падыходжу і кажу: „А чаму вы так рэжаце?" А яна нічога не адазвалася.

**Марыся**

Марыся! Наогул усе сны нядобрыя. Абазначаюць яны для вашай сям'і нейкія клопаты, нейкую страту і непрыемнасць. Амаль усе элементы гэтых сноў кепскія: бацька — клопат, голы — страта, сцэна, чорная, — нейкі жаль, а мо нават і жалоба, Баба Яга — зусім кепска, плёткі і непрыемнасці. Надобрае прадвяшчае і тое, што яна разразала палена. Ці не здарыцца нешта кепскае ў сям'і тваёй дачкі...

**Астрон**




Ці ты, Сэрцайка, хацела б выслухаць мужчыну? Дарослага, дасведчанага жыццём, але крыху ўсё ж шчаслівага?.. Людзі мне гавораць, што я нешчаслівы, і надта спачуваюць мне, а я іх зусім не разумею...

Была ў мяне калісь дзяўчына, якую я кахаў без памяці. Мы сябравалі з ёй ужо пару гадоў і мне нават у галаву не прыйшло, што яна не будзе маёй жонкай, калі на даляглядзе паявіўся той трэці. Толькі месяц хадзілі яны, хаця яна сустракалася яшчэ і са мной, праўда, пасяброўску толькі, і неўзабаве я атрымаў запрашэнне на іх шлюб. Сэрца маё анямела ад трывогі і незразумення. Я ж не думаў ніколі ў жыцці, што ўсё так хутка і неспадзявана скончыцца.

Мая Алінка выйшла замуж, а я застаўся ў адзіноцтве. Усе жанчыны сталі мне нейкія агідныя, не мог глядзець на ніводную — не ведаю, з нянавісці ці з кахання да той адзінай.

Алінка адно па другім нарадзіла трое дзяцей. Гадавала сваіх дзетак і кахала свайго мужа. Ён у яе, аднак, вельмі любіў выпіць. Ад шчасця да няшчасця, гэта я ўжо ведаў, толькі адзін крок. І вось аднойчы муж Алінкі, едучы пасля моцнай выпіўкі на матацыкле, наехаў на дрэва. Смерць наступіла маланкава. Засталася мая Алінка ўдавою з тройкай дзяцей. Паведаміла аб няшчасці мяне, і я прыйшоў на пахаванне яе мужа. Усе спачувалі ёй, што ў такой маладой на руках трое дзетак. На мяне ізноў нахлынулі ўсе ранейшыя пачуцці. І не было мне важна, што была яна жонкай іншага, што ад некага іншага мела дзяцей. Была толькі яна і была ў патрэбе. Я пачаў прыходзіць да яе, дапамагаць чым толькі мог. Жалоба Алінкі не трывала так доўга, як я спадзяваўся. Відаць, і ёй неабыякава было наша мінулае. Так што праз два месяцы мы ўжо жылі з ёй разам, як муж і жонка, а праз год узялі шлюб.

Я шчаслівы, што ізноў знайшоў сваю дзяўчыну, неўзабаве народзіцца ў нас ужо наша супольнае дзіця. Але маё асяроддзе і, што горшае, мая сям'я мяне зусім не разумеюць. Усе маюць прэтэнзіі да мяне, што пайшоў гадаваць чужых дзяцей. Не будзе з гэтага дабра, кажуць, няхай толькі падрастуць гэтыя дзеці. А мне дык здаецца, што кожнае дзіця гэта толькі дзіця. Ды і чаму ж я меў бы не кахаць гэтых дзетак, яны ж — дзеці маёй каханай! Мне здаецца часамі, што яны такія ж мае, як і тое дзіця, што мае нарадзіцца. А найважнейшае, што я ізноў знайшоў адабранае ў мяне шчасце. Як ты думаеш, Сэрцайка, ці добра я зрабіў? І ці варта было завязваць сабе свет, выхоўваючы чужых дзяцей?

**Андрэй**

Андрэй! Маеш рацыю, што дзеткі гэтыя табе не зусім чужыя, калі іх нарадзіла каханая табой жанчына. А, зрэшты, выхоўваюць жа і зусім чужых... Думаю, што ты зрабіў правільна і ў гэтым моманце мне хацелася б пакланіцца табе. Не ведаю, як здарылася, што здрадзіла табе калісьці твая дзяўчына, можа па маладосці, але ты ёй не здрадзіў, застаўся сабою. І цяпер ты шчаслівы.

А лічацца ў жыцці толькі мінуты шчасця.

**Сэрцайка**




## САЛАТА З БУРАКОЎ

На 40 дэкаў буракоў трэба ўзяць 2 цыбуліны, паўшклянкі варанай фасолі, 20 дэкаў кіслых агуркоў, 2 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі, 1 лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, 5 лыжак алею, паўтары лыжкі муштарды, соль і цукар па смаку.

Зварыць памытыя буракі, астудзіць іх. Можна таксама буракі спячы ў духоўцы. Пасля буракі абабраць, нарэзаць дробнай костачкай. Агуркі таксама абабраць, нарэзаць і перамяшаць з буракамі. Дадаць дробна пасечаную цыбулю, перамяшаць. Муштарду расцерці з алеем, калі атрымаецца аднастайная маса, дадаць солі і цукру, перамяшаць з нарэзанай гароднінай. Дадаць яшчэ фасолю, а таксама солі і цукру па смаку. Гатовую салату выкласці у місачку, пасыпаць пасечанай пятрушкай, перамешанай з зялёнай цыбулькай.

## МОРКВА, ТУШАНАЯ З ЯБЛЫКАМІ

На паўкілаграма морквы трэба ўзяць паўкілаграма яблыкаў (кіслых), пяць дэкаў масла, соль і цукар па смаку, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Моркву ачысціць, спаласнуць і нарэзаць кружкамі ці сцерці на тарцы. Заліць невялікай колькасцю вады, дадаўшы солі і цукру. Дадаць яшчэ палавіну масла і варыць пад пакрыўкай. Калі морква пачне даварвацца, дадаць абабраныя і нарэзаныя кавалачкамі яблыкі, зняць з агню, калі яблыкі разварацца. Дадаць яшчэ масла, перамяшаць. Заправіць па смаку соллю і цукрам і перамяшаць з пасечанай зялёнай пятрушкай.

## ГАРОДНІНА З ПЯЧУРЫЦАМІ

На салату бярэм: 2 цыбуліны, 4 морквіны, 30 дэкаў сэлера, 20 дэкаў пячурыц, шклянку булёну, 4 лыжкі алею, 2 лыжкі таматнага канцэнтрату, 3 зубкі часнаку, лаўровы лісток, соль, перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Моркву і сэлеры памыць, абабраць, дробна нарэзаць макаронікам. Цыбулю абабраць і нарэзаць пер'ямі, памытыя пячурыцы нашаткаваць. Разагрэць алей, дадаць цыбулю і сэлеры, крыху падтушыць. Дадаць рэшту гародніны, пасечаны часнок і лаўровы лісток, пасыпаць соллю і перцам, даліць булёну, накрыць. Праз 20 мінут дадаць пячурыцы і тушыць яшчэ мінут дзесяць. Тады дадаць таматны канцэнтрат, праверыць смак, можна дадаць яшчэ солі і перцу. Пералажыць у талерку ці ў місачку, пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай.

Падаюць гэтую салату гарачай.

**Гаспадыня**

# Зорка
## Старонка для дзяцей



Мяцель не вее, сціхнуў вецер... Фота Мікалая Зубрыцкага

Уладзімір Мацвеенка

## Загадкі

### Зайкі-загадайкі

40

Ноччу і ў туман міргае —
Караблям дапамагае.

41

Я расту не на ствале.
Я заўсёды на стале.
Мяне ўкусіш, небарача,
Дык адразу і заплачаш.

42

Яго дом — акіян,
Яго ежа — планктон.
Мае ўласны фантан.
Адкажыце, хто ён?

43

Адгадайце, носіць хто
Касцяное паліто?
Робяць з яго прадаўцы
Гузікі і грабянцы.

44

Хто зялёнымі вачамі
Грозна бліскае начамі?
Мае пухленькія лапкі,
А на лапках кіпці-драпкі,
Спінку пругка выгінае,
Страх на мышак наганяе?

**Адказы — у наступным нумары.**

Адказы на загадкі з папярэдняга нумара: 35. Хамяк. 36. Ранцы. 37. Перапёлка. 38. Пчала, мёд, вулей. 39. Раса.

На цэнтральным аглядзе...

## Маладыя майстры слова

15 снежня 1990 года першымі ў будынку Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку паявіліся дзеці і іх апекуны з Гданьска. Яны тут правялі ноч перад сваім выступленнем на цэнтральным аглядзе дэкламатарскага конкурсу для школьнай моладзі.

Да цэнтральнага конкурсу закласіфікавалася 44 удзельнікаў (у раённых аглядах прымала ўдзел 107 дзяцей). Дэкламатары выступалі ў дзвюх групах — вучняў старэйшых і малодшых класаў. Журы конкурсу (Яніна Чэрнякевіч — шматгадовы рэдактар „Зоркі", Міра Лукша — новы яе рэдактар і Ларыса Дуброўская — педагог з Тэатральнага інстытута ў Мінску) мела нялёгкую задачу. Усе выступленні нашых маладых артыстаў былі на высокім і роўным узроўні. Выступалі яны з цікавай праграмай, былі ўсе добра моўна падрыхтаваныя, іх інтэрпрэтацыя была вельмі трапнай артыстычна.

— Так цудоўна па-беларуску ў Мінску моладзь не размаўляе! — сказала Ларыса Дуброўская: — Дзеці ўсю душу ўкладалі ў адчуванне верша, прозы. Відаць — для іх беларуская, родная мова — вельмі важная ў жыцці. Гэта мне прыемна і радасна бачыць.

Яніна Чэрнякевіч рэгулярна бывала на ўсіх конкурсах. Раней здаралася так, што рэпертуар быў са старых кніжак, паколькі да нас не даходзіла свежая літаратура, асабліва да настаўнікаў з вёсак, а ўдзельнікі дэкламатарскіх конкурсаў — перш за ўсё з нашых вёсак. Сёння прагучалі новыя вершы, новых аўтараў або тэксты раней забароненыя, нязнаныя. Асабліва Гданьск вылучыўся падборам тэкстаў вельмі патрыятычных, глыбокіх. Старэйшыя дзеці выступілі вельмі сур'ёзна. Праўда, траплялася так, што „Параску і падказку" дэкламавалі аж 4 разы, але не таму, што рэпертуар небагаты, а таму, што верш падабаецца дзецям. Сёлета пані Яніну ўзрадавала найбольш тое, што ўжо не трэба гаварыць пра недахопы ў вымаўленні. Ставілася пытанне: хто на сцэне лепш іграе, хто майстар.

Сярод малодшых дзяцей найлепей выступаў **Паўлік Бушко** з Гайнаўкі. На другім месцы — **Юліта Баршчэўская** з Трасцянкі і **Марта Аляксеюк** з Хрэбалоў. На трэцім месцы — **Магдалена Русачык** з Бельска і **Аліна Якімюк** з Храбалоў. Вылучаныя — **Кася Сегень** з Бельска і **Марта Мрачынская** з Храбалоў.

Са старэйшых удзельнікаў

(Працяг на стар. 10)




(афрыканская казка)

Памёр у далёкай афрыканскай вёсцы бацька кураняці — стары певень. Пакінуў ён яму наследства — адну ракавінку каўры. Пазычыў быў гэтую ракавінку зяцю правадыра племені і не паспеў запатрабаваць аддачы.

Выбралася кураня ў далёкую дарогу за сваім наследствам. Сустрэла па дарозе крывы сук. Штурхануў яго сук, і ўпала куранятка лапкамі ўверх. Устала, папраўіла свае пёркі і ветліва сказала:

— Добры дзень, крывы сук! Прабачце, што я вас не заўважыла!

— А куды ты ідзеш, куранятка? — зацікавіўся сук.

— Я іду за сваім наследствам.

— Вазьмі мяне з сабою.

— Я згодна! — узрадавалася птушаня.

Узяў малютка сук і палажыў яго ў свой заплечны мяшок. Ідзе далей сваёй дарогай, а насустрач — вялікі дзікі кот.

— Ага, вось мой абед ідзе! — бліснуў кот вачамі. Але куранятка храбра крыкнула кату:

— Не, ты не можаш мяне з'есці! У мяне вельмі сур'ёзная справа ў адной вёсцы! Я іду за сваім наследствам.

— Вазьмі мяне з сабой.

Кураня згадзілася і ўвапхнула дзікага ката ў свой мяшок. Па дарозе сустрэла яшчэ гіену, льва, слана... Усіх іх памясціла ў свой заплечны мяшок. Нарэшце перад ім паявіўся храбры волат. І яго кураня запрасіла ў свой мяшок ды пакрочыла далей.

Доўга яшчэ ішло куранятка, і нарэшце дабралася да вёскі, дзе жыў даўжнік яго бацькі. Звочыў даўжнік кураня і пабег да правадыра:

— У нашу вёску прыйшло кураня-чужаземец! Яно хоча патрабаваць у мяне стары доўг. Гэта мяне разарыць!

— Як яно пасмела прыйсці ў маю вёску! — узлаваўся правадыр. — Я яму пакажу стары доўг! Закіпяціце воду і апарце гэтае птушаня! Няхай сканае!

Дачка правадыра пляснула ў далоні:

— Я сама прынясу калебас з кіпетнем! Я сама яго апару! А пасля абскубаю і звару!

Паставіла сабе на галаву калебас з кіпетнем і прыбегла.

Развязаў свой мяшок пеўнік. Выскачыў з мяшка крывы сук, кінуўся пад ногі дзяўчыне. Спатыкнулася дачка правадыра,

(Працяг на стар. 10)

**МАЛАДЫЯ МАЙСТРЫ СЛОВА**

(Працяг са стар. 9)

найлепшая была **Кася Мацкевіч** з Гданьска, якой глыбокая інтэрпрэтацыя верша Я. Купалы „Я ад вас далёка“ вельмі ўсхвалявала слухачоў. Другое месца ўзялі **Аня Главацкая** з Орлі і **Кася Зіневіч** з Кляшчэляў. Вельмі спадабаліся **Марк Пост** з Орлі і **Аня Томчук** з Кляшчэляў, якім дасталося III месца ў конкурсе. Вылучана за цікавае выступленне **Уршуля Кунцэвіч** з Ляшукоў.

Першы раз найлепшыя ўдзельнікі атрымалі, апрача кніжак, канкрэтныя ўзнагароды ў канвертах. Узнагародай для найлепшых удзельнікаў агляду будзе таксама магчымасць летам пабачыць Беларусь.

**Міра Лукша**

**Аляксей Пысін**

**ПІСЬМО ПТУШАК**

Лёг сняжок пушысты,
Белы, як папера,
А на снезе птушкі
Ў каляровым пер'і.
Снегіры, сініцы,
Галкі-забіякі
На паперы гэтай
Пакідаюць знакі.
Цэлую гадзіну
Дзеці прастаялі:
„Што гэта за знакі?“ —
І не адгадалі.
Падыйшоў дзядуля,
Акуляры — ў рукі:
— Зараз адгадаем,
Дарагія ўнукі.
Гэта ж пішуць птушкі:
Ў іх няма кармушкі,
Просяць хоць бы трошкі
Зерняў, хлебных крошак.




(Працяг са стар. 9)

упала і выліла кіпецень на сябе.

— Трэба ўкінуць кураня ў куратнік: там старыя злосныя куры яго задзяўбуць! — рашылі людзі.

Дзікі кот перадушыў усіх курэй, выбраў сабе самую тлустую, з'еў яе і ўцёк.

— Трэба ўкінуць гэтае кураня ў хлеў, каб яго козы затапталі! Трэба ж якасьці ад яго пазбавіцца!

З козамі палічылася гіена. У агароджы з быкамі — леў...

— Няма ніякае сілы на гэта праклятае кураня! — закрычалі людзі. — Кінем яго ў агароджу вярблюдам, няхай яго насмерць затопчуць!

З мяшка выйшаў слон... Тут людзі пачалі шаптацца:

— Відна, нічога мы не зможам зрабіць гэтаму пеўніку! Трэба вярнуць яму яго наследства, і няхай ідзе згэтуль! Але ў джунглі і так мы яго дагонім і адбярэм ракавінку каўры!

Аддалі пеўніку ракавіну, і ён пайшоў дадому. Але калі толькі скрыўся з віду, усе мужчыны з вёскі ўскочылі на коней і кінуліся ў пагоню. Пачула куранятка тупат коней, угледзела вершнікаў... Выпусціла з мяшка волата. Адолеў волат усіх воінаў, нават самога правадыра, і стаў каралём гэтай вёскі.

А малы пеўнік шчасліва вярнуўся ў сваю вёску са сваім наследствам. Вось і казцы канец.

✲

Нарысуйце ілюстрацыю да экзатычнай казкі пра храбрае куранятка. Найцікавейшыя малюнкі будзем публікаваць.




**ВІТАМІНЫ ДАЮЦЬ ЖЫЦЦЁ**

Вітаміны — рэгулятары розных жыццёвых працэсаў арганізма. У кожнага з іх — свая роля. **Вітамін В₁** неабходны ў абмене матэрыі, мае ўплыў на добрае самаадчуванне чалавека, ліквідуе стому, папраўляе апетыт. Найбольш яго ў лістовай гароднінe, чорным хлебе, мала ачышчанай крупе, яйках, аўсяных хлоп'ях, пшанічных парастках. **Вітамін В₂** — складавая частка энзымаў дыхання. Недахоп яго ў страве даводзіць да тармажэння росту, заедзяў у кутках губаў, змен на скуры. Многа яго ёсць у такіх прадуктах, як малако, сыры, яйкі, стручковыя расліны, збожжавыя прадукты. На паніжэнне яго колькасці ў прадуктах дзейнічае няправільнае захоўванне і размарожванне прадуктаў. Гатаванне стравы ў адкрытых гаршчках даводзіць да акісленнія вітаміна. Многа яго прападае пры паласканні гародніны ў вялікай колькасці вады і адліванні адвару. Недахоп **вітаміна В₃ (РР)** даводзіць да бяссонніцы, неспакоя, раздражэння, немагчымасці канцэнтрацыі. Выступае ён у тых прадуктах, што і іншыя вітаміны з групы В — у стручковых, збожжы і дрожджах. **Вітамін В₆** неабходны моладзі пры лячэнні вугроў (трондзік) і себарэі (лаяток). Знайсці яго можна ў дрожджах, парастках пшаніцы, вотрубʼі, стручковых, капусце, моркве. **Вітамін В₁₂** ужываецца пры анеміі (малакроўі). Многа яго ў малацэ і яйках. **Біятын (віт. Н)** уплывае на скуру. Біятыну шкодзяць сырыя бялкі яек. **Вітамін С** (аскарбінавая кіслата) прадухіляе цынгу (шкорбут). Недахоп яго выклікае болі ў суставах і касцях, падобныя на рэўматычныя. Павышае ўстойлівасць арганізма на хваробы, нават ракавыя, але іх не лечыць. Багатая крыніца вітаміна С — плады дзікай ружы, чорная парэчка, трускалкі, цытрусавыя фрукты, лісце пятрушкі, кроп, салодкі перац (папрыка), капуста, маладая бульба. **Вітамін А** неабходны для добрага ўтрымання эпітэлія (наблонка) скуры і слізістых абалонкаў, зроку, супрацьдзейнічае стварэнню камянёў у нырках і пузыры, абніжае ўзровень халестэрыну ў крыві. З вегетарыянскіх прадуктаў найбольш віт. А ў жаўтках яек, сырах, фруктах і зялёнай гароднінe — шпінаце, буйміне (жэжуха), капусце, лістках пятрушкі, салаце. Пры недахопе **вітаміна Д** — часта дрэнная будова цела, калецтва, малыя фізічныя здольнасці, адвапненне зубоў і касцей. Найлепшая натуральная крыніца вітаміна Д — сонца. Ёсць у жаўтках яек, сырах. **Вітамін Е** — гэта жывучасць, энергія, ахвота да жыцця. Лечыць неўралгічныя болі, асабліва сутаргі (скурчы) лытак, хваробы сэрца. Крыніца віт. Е — лістовая гародніна, неачышчанае зерне збожжа, раслінныя тлушчы, парасткі пшаніцы, вотрубʼе. **Вітамін К** — проціўкрываcёчны. Знойдзем яго ў зялёнай гароднінe, капусце, шпінаце, салаце, соевым алеі і грэцкіх (валошскіх) арэхах.



**КОНКУРС!!!**

**Нястрашныя нам люты мароз і холад — калі ў нашых сэрцах гарыць вясёлы агеньчык! „Зорка“ абʼяўляе конкурс на найлепшыя школьныя анекдоты!**

**Жыццё жывое — яно само на кожным кроку стварае і смешнае, і страшнае. Запісвайце — прысылайце „Зорцы“! „Вясёлы куточак“ чакае! І большыя формы вашых літаратурных выказванняў „Зорка“ заўсёды з ахвотай будзе друкаваць на сваіх гасцінных старонках.**

**ПАЗНАЁМІМСЯ**

* ✲ *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, сяло Краснае, вул. Прывакзальная, д. 5, кв. 1. Салюта Ала (14 гадоў). Хоча пазнаёміцца з хлопчыкам.

**малюнкі школьнікаў**



*Малюнак да казкі „Музыка“ З. Бядулі. Моніка Дзевульска, 10 гадоў, вуч. IV класа школы ў Храбалах.*

**Пішуць школьнікі**

**„Дарагая „Зорка“!**

Пішa да цябе вучаніца VII класа пачатковай школы ў Навакорніне. Хачу табе расказаць, як мы пераходзілі ў новую школу. Дагэтуль мы вучыліся ў старым, знішчаным будынку. Зімою праз дзверы і вокны дуў вецер са снегам. Старыя печкі не грэлі. У класах было цёмна і цесна. У адной зале вучыліся па два класы — было нам вельмі цяжка вучыцца.

І вось, пасля доўгага чакання, у кастрычніку мы перайшлі ў новы будынак — двухпавярховы, у якім залы светлыя, вялікія і цёплыя. На ўрачыстасць адкрыцця школы прыйшлі запрошаныя госці, настаўнікі, вучні і нашы бацькі, дзякуючы працы якіх быў выканчаны школьны будынак. Я думаю, што кожны хацеў бы вучыцца ў такой школе!

**Яанна Давідзюк**

**АДГАДАНКА**



Толькі адна дарога вядзе да сярэдзіны лабірынта. Знайдзі яе.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

